


# Наша Слова



-праграма

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ШКОЛА *Стар.2.*

РЭФЕРЭНДУМНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ *Стар.3.*

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 51 (315) 19 — 25 снежня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

## Поступ тыдня



○ **10 снежня, у Сусветны дзень абароны правоў чалавека**, які звязаны з падзеяй 1948 года, калі была прынята Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, у Менску ля будынка Нацыянальнага банка адбыўся пікет. На жаль, не абышлося без палявання на людзей, арыштаў (затрыманняў) і хуткасных судовых выракаў. Да Новага года мусіць "сядзець" сустаршыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Мікола Статкевіч. Іншым далі "тэрміны" меншыя, а таксама штрафы.

○ ***Міністэрствам знешніх эканамічных сувязяў Беларусі падведзены вынікі знешнегандлёвага абароту краіны за дзевяць месяцаў гэтага года.*** *Яго памер склаў 9,9 млрд. долараў ЗША. Тавараабарот з краінамі СНД склаў 6,6 млрд. долараў, у тым ліку з Расіяй — 5,2 млрд., з дзяржавамі далёкага замежжа — 3,3 млрд. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года тавараабарот павялічыўся ў цэлым на 19,7 працэнта, з краінамі СНД — на 25, з дзяржавамі далёкага замежжа — 10,4 працэнта. Аднак сальда знешняга гандлю за дзевяць месяцаў засталося адмоўным і дасягнула 1239,1 млн. долараў. А дзе ўзяць?*

○ **Адбыўся афіцыйны візіт урадавай дэлегацыі нашай краіны**, якую ўзначальваў в. а. прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг, у Кітайскую Народную Рэспубліку. Гэты візіт стаў працягам таго інтэнсіўнага дыялогу, які вядзецца паміж нашымі дзяржавамі.

○ ***Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпісаў распараджэнне****, якое датычыць рэканструкцыі і капітальнага рамонту будынкаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта і Менскаму гарвыканкаму даручана выдзеліць Нацыянальнай бібліятэцы часова, на перыяд правядзення рэканструкцыі і капітальнага рамонту яе будынкаў, памяшканні плошчай 6800 квадратных метраў, у тым ліку 3100 квадратных метраў для захоўвання кніг. Гэта ўсё цудоўна, але каб часовы пераезд Нацыянальнай бібліятэкі не стаў пастаянным, бо ў наш час даўгабудамі нікога не здзівіш.*

○ **На тэрыторыі нашай краіны**, якая забруджана радыеактыўнымі выкідамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, пражывае больш за 2.200.000 чалавек. Амаль кожны пяты...

○ ***У Грамадскім прэс-цэнтры "Дома прэсы" прайшла канферэнцыя "Развіццё моўнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. МДЛУ ўчора, сёння, заўтра".*** *У ёй удзельнічалі рэктар Лінгвістычнага універсітэта, прарэктар па вучэбнай працы, дэкан факультэта заходнееўрапейскіх моў і дэкан факультэта англійскай мовы. Ва універсітэце дзейнічае 9 факультэтаў, на якіх вучыцца 4131 студэнт. Вывучаецца 14 моў свету. Сярод іх беларускай мове ва універсітэце надаецца значная ўвага — мова ж дзяржаўная.*

○ **"Стэфан Баторый і Усходняя Еўропа яго часу"** — так называлася міжнародная навуковая канферэнцыя, якая прайшла ў Гародні. У ёй удзельнічалі навукоўцы з Беларусі, Польшчы, Расіі, Украіны, Летувы і Венгрыі.

○ ***Споўнілася 200 гадоў*** *з дня нараджэння пісьменніка і грамадскага дзеяча першай паловы XIX стагоддзя Тамаша Зана, які жыў у маёнтку недалёка ад вёскі Смаляны, што на Аршаншчыне. З гэтай нагоды ў Смалянах адбыліся святочныя ўрачыстасці, на якія прыехалі госці з Польшчы.*

## Сяброўства Беларусі ў АБСЕ будзе прыпынена?

Тэмай мноства публікацый "Нашага слова" стала парушэнне ўладамі краіны правоў чалавека, у прыватнасці — прынцыпу нацыянальнай роўнасці грамадзян, а таксама права свабоднага выбару бацькамі мовы навучання дзяцей. Парушэнні правоў асобы ў Беларусі рэгістраваліся і мноствам іншых сродкаў масавай інфармацыі, а таксама праваабарончымі арганізацыямі. Але ці ў стане маламікія грамадскія арганізацыі і даволі слабы незалежны друк паўплываць на становішча ў краіне?

Магчыма, там — можам сказаць мы сёння. Доказам таму ёсць друкаваны ніжэй тэкст ліста, скіраванага прэзідэнтам МХФ — Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыі для правоў чалавека — старшыні Арганізацыі для бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе Флавія Коцці.

Вена, 2 снежня 1996

*Шаноўны пан Коцці!*

*Я пішу Вам ад імя Міжнароднай Хельсінкскай федэрацыі правоў чалавека (МХФ), рэкамендуючы часова прыпыніць ўдзел Беларусі ў АБСЕ.*

*Мы робім гэты крок з парады Беларускага Хельсінкскага камітэта, а таксама на падставе нашага ўласнага аналізу існуючай палітычнай сітуацыі і стану правоў чалавека ў гэтай краіне. Гэтыя абставіны добра вядомыя Вам і ўдзельнікам дэлегацый і не патрабуюць падрабязнага тут выкладання.*

*АБСЕ злучаюць каштоўнасці, увасобленыя ў адмысловых нормах, што ажыццяўляюцца праз палітычныя абавязкі. АБСЕ мусіць пільнаваць свае адвечныя каштоўнасці — рабіць інакш значыла б дэманстраваць іх спрэчнасць. АБСЕ мусіць даказваць некранальнасць сваёй мэты і вернасць ёй. Дзяржавы — удзельніцы АБСЕ не могуць больш трываць поўнай пагарды Хельсінкскіх прынцыпаў з боку Прэзідэнта Лукашэнкі. Менавіта таму ўдзел Беларусі ў АБСЕ мусіць быць прыпынены да часу, пакуль яна дзейсна не дакажа сваё вяртанне да прынцыпаў дэмакратыі, правоў чалавека і ўлады закона.*

*Мы глыбока ўдзячныя Вам за аказаную ўвагу.*

**Джо БЕНКОЎ,**
**Прэзідэнт МХФ,**
**экс-прэзідэнт парламента Нарвегіі.**

## Пад сімвалічнай назвай

У Навагрудку, колішняй сталіцы беларускай дзяржавы, апошнім часам пабачылі свет некалькі кніг мясцовых аўтараў. І вось яшчэ адна навінка: тутэйшыя паліграфісты выпусцілі паэтычны зборнік Уладзіміра Сіўко "Позніяя кветкі".

Аўтар кнігі — вядомы на Наваградчыне чалавек. Ён выхаванец беларускай гімназіі, што працавала ў старажытным горадзе перад Другой сусветнай вайной. Шмат гадоў аддаў Уладзімір Сіўко, жыхар знакамітага прынёманскага мястэчка Любча, адукацыі і прапагандзе роднага слова. Што ж тычыцца зборніка, то ў ім руплівец матчынай мовы ўслаўляе лепшыя якасці нашага чалавека і аддансць Бацькаўшчыне, каханне, высакароднасць. Акрамя вершаў, напісаных у розныя гады, зборнік змяшчае паэму "Рагнеда".

"Позніяя кветкі" — сімвалічная назва кнігі аўтара сталага веку. Так, лепш было б, калі б зборнік Уладзіміра Сіўко выйшаў раней. Ды, як гаворыцца, лепш позна, чым ніколі. І таму мы маем падставу раздзяліць разам з шаноўным чалавекам яго радасць і пажадаць яму новых паэтычных кветак.

**Ф. ЖАЛКОЎСКІ.**
г. Ліда.

***"Да знешніх праяў акцёрскасці я стаўлюся досыць абыякава. Для мяне гэта няважна, неістотна. Як сказаў у адным з вершаў Максім Танк: "Я ведаю адну зорку — пяцікрылую далонь маці, на якой выраслі мы, наш хлеб, нашы песні". І ўвогуле, напішыце, што я шчаслівая і што ўсё ў мяне добра".***



29 лістапада ў памяшканні Нацыянальнага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адбыўся спектакль з нагоды дня нараджэння і бенефісу народнай артысткі Беларусі, лаўрэата дзяржаўнай прэміі Марыі Захарэвіч. Ён стаў значнай падзеяй у культурным жыцці сталіцы і, акрамя таго, засведчыў, што беларуская грамадскасць высока цэніць прафесійнае майстэрства артысткі, яе ролю ў развіцці і пашырэнні нацыянальнай культуры ў народзе. У паэтычнай форме Анатоль Вярцінскі выказаў гэту думку так:

*Твае ролі — твае болі,*
*твае мукі і любові,*
*твае лецейкі і золь.*
*Твае ролі — твая доля.*
*А ўсіх роляў тваіх роля —*
*Беларусі роднай боль.*

У праграме вечара былі заяўленыя маналог актрысы "Чаго прасіла душа", які пакінуў вялікае ўражанне, і віншаванні. Маналог, у які арганічна ўпісаліся, знітаваныя асабістымі перажываннямі і пачуццямі выканаўцы, урыўкі з твораў Танка, Быкава, Мележа, Барадуліна, Вярцінскага, Янішчыц, Лось, Чабана, Скурко, прагучаў з вуснаў юбіляркі як споведзь уласнага сэрца, як гісторыя ўласнай долі. Марыя Захарэвіч гаварыла з залай галасамі роднай прыроды, галасамі родных вёсак — усіх гэтых Залужжаў, Залессяў, Заполляў, — галасамі сваіх неўміручых гераінь, лёс якіх перажыла на сцэне, але гэта быў і яе ўласны голас — пра сваё і ад сябе — голас грамадзянкі і дачкі беларускай зямлі. У спецыяльным выпуску газеты "Арлекін", прысвечаным бенефісу артысткі, знаходзім наступныя радкі Сяргея Законнікава:

"Яна не проста таленавіты чалавек. Яна — сумленная, прыгожая, годная і ўдзячная дачка Айчыны. Абліччам, паставай, голасам, а самае галоўнае, — сэрцам і душою акторка сведчыць пра сваю глыбінную беларускасць. Душа яе пераняла, увабрала ў сябе ад слаўнага, нязводнага роду сапраўдных жанчын-беларусак — нашых бабуль, мацярок, сясцёр, каханых, спаконвечных патрыётак сваёй зямлі — мудрасць, мужнасць, трываласць, цярплівасць, любоў, спагаду і веру, каб шчодра дзяліцца гэтым багаццем з людзьмі".

Пасля спектакля Марыя Захарэвіч літаральна была засыпана кветкамі і віншаваннямі ад імя шматлікіх дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў, тытулаваных землякоў і сяброў. Даслаў віншаванне і Прэзідэнт Лукашэнка. У прыватнасці, Марыю Захарэвіч павіншавалі з бенефісам Міністэрства замежных спраў, Міністэрства культуры, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі, абласное ўпраўленне культуры, упраўленне культуры Менгарвыканкама, адміністрацыя Ленінскага раёна г.Менска, калектыў Купалаўскага акадэмічнага тэатра і калектыў Маладзечанскага тэатра, Беларускі дзяржаўны інстытут культуры, Беларускае радыё і тэлебачанне, Мядзельскі і Маладзечанскі райвыканкамы, некаторыя іншыя калектывы. Персанальна павіншавалі актрысу сын Нарачанскага краю, рэктар Акадэміі мастацтваў народны мастак Васіль Шаранговіч, мастачка Нінэль Шчасная, прафесар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі, музыказнаўца Элеанора Язерская, землякі Леанід Пашкун, Восіп Тарасёнак, Надзея Мішчанка, Ірына Баравая, спадар Казакевіч і іншыя.

На развітанне хор выканаў у гонар актрысы "Многае лета".

**Ірына КРЭНЬ.**
**Фота М. ПЯТРОВА, БелТА.**

*Рыгор БАРАДУЛІН*

## Чытае вершы Захарэвіч

Чытае вершы Захарэвіч,
Нібы сыходзіць на зямлю.
І звечарэеш,
Захварэеш
Жаданнем выгукнуць:
— Люблю!..

І захварэеш невылечна
Забытай прагай чысціні,
Ад слоў душы, як небу,
Млечна.
Нанова кожны гук цані!

Ах, нарачанка —
Нарачонка
Радка прачулага,
Які
У бераг сэрца
Б'ецца чоўнам
Праз веі веку,
Трапяткі.

Марыля!
Свіцязі ласкава
Пачуць
Імя світання зноў.
— Maria! —
Храмы ўтораць
— Ave!
Зямной малітваю званоў.

Марына,
Маша.
Кветка Мар'я,
Дзе зман-Іван?
Туман, як лёс.
Ты тая хмарка,
Што захмар'е
Паслала нам
Для светлых слёз.

*Грамадскі рух*

# У цэнтры ўвагі — нацыянальная школа

27 лістапада ў менскім Доме літаратара адбылося пасяджэнне "круглага стала" з назваю "Беларуская школа: стан і перспектывы развіцця", арганізаванага Таварыствам беларускай мовы і Таварыствам беларускай школы супольна з педагагічнай камісіяй Саюза пісьменнікаў.

Першым слова на сходзе ад яго старшыні Васіля Зуёнка атрымаў прэзідэнт ТБШ Генадзь Пятроўскі. Аналізуючы стан беларускага школьніцтва ад канца 80-х гадоў і да нашага часу, сп.Пятроўскі нагадаў: Закон аб мовах, які абвясціў беларускую мову адзінай дзяржаўнай і асноўнай у адукацыйных установах, даў магчымасць як грамадскім арганізацыям, так і дзяржаўным чыноўнікам зрабіць захады да пашырэння сферы ўжывання мовы і павышэння яе статуса. Аднак, пазначыў прамоўца, выкананне гэтага закона, дзейснага і дагэтуль, сёння практычна прыпынена.

Таму ў нядаўна распрацаванай Міністэрствам адукацыі мадэлі рэфармавання сярэдняй школы папросту не ўжываюцца тэрміны "беларуская культура" і "беларуская мова". Калі гэтая канцэпцыя адукацыі будзе зацверджаная, дык беларуская мова атрымае шансы на захаванне хіба што як рэлікт у вясковых школах, зазначыў кіраўнік ТБШ.

Сваю занепакоенасць кірункам рэформы сярэдняй школы выказаў пісьменнік Іван Шамякін. На ягоны погляд, адсутнасць права на паступленне ў ВНУ у моладзі, што атрымае 10-класную адукацыю і не скончыць патрэбных для навучання ў вышэйшых школах ліцэяў і каледжаў, будзе сацыяльна несправядлівым, бо закране найперш дзяцей з сем'яў вяскоўцаў і малаемённых.

Гаворачы аб роўнасці нацыянальнай, пісьменнік адзначыў негатыўнае стаўленне дзяржаўнага кіраўніцтва да ягоных прапаноў забяспечыць рэальную, а не намінальную моўную роўнасць грамадзян.

Вялікую ўвагу ўдзельнікаў нарады прыцягнуў выступ прадстаўніка Таварыства беларускай школы Валерыя Палсцюка. Ён прытаваў цэлы шэраг урыўкаў са скаргаў, атрыманых сёлета ТБШ ад грамадзян, чыё права на свабодны выбар мовы навучання дзяцей было парушанае.

Людзі, якія жадаюць даць сваім дзецям адукацыю па-беларуску, адчуваюць вельмі моцны супраціў дзяржавы ў асобах яе чыноўнікаў — работнікаў сферы адукацыі. Акрамя таго, афіцыйны беларускі статус многіх школаў і класаў сталіцы ўжо не адпавядае рэчаіснасці — вынікала з ягоных словаў. Акрамя таго, у цытаваных дакументах адзначаліся выпадкі змянення школьнай адміністрацыяй у заявах бацькоў абранай мовы навучання з беларускай на расійскую. Было сказана, што адміністрацыяй асобных школаў фальсіфікаваліся не толькі заявы бацькоў, але і іхнія подпісы.

Далей сп.Палсцюк выказаў свае меркаванні аб дастатковa прыхільным стаўленні да нацыянальнай адукацыі старшыні Вярхоўнага Савета С.Шарэцкага і часткі сяброў камісіі Вярхоўнага Савета для справаў адукацыі. Супрацоўніцтва з імі магло б даць нейкі плён. Аднак у выніку зменаў, што адбыліся ў Вярхоўным Савеце пасля 24 лістапада, не выпадае спадзявацца на падтрымку заканадаўчай улады. З разуменнем гэтага беларуская арганізацыя мусяць працаваць далей, дадаў прамоўца.

"Таварыства беларускай мовы, сябрам якога я з'яўляюся, не працуе належным чынам. Мы не маем магчымасцяў ахапіць увесь комплекс праблем беларускай школы. Таму не трэба браць на сябе зашмат абавязкаў. Трэба ставіць перад сабою задачы, адпаведныя магчымасцям і патрэбам: ствараць сетку арганізацый, здольных аказаць дапамогу людзям, канстытуцыйныя правы якіх парушаюцца. Трэба апеляваць да міжнароднай грамадскасці, да праваабарончых арганізацый. Бо галоўнае сёння — праваахоўная дзейнасць, як у часы СССР", — сказаў сп.Палсцюк.

Сваю занепакоенасць станам беларускамоўнай адукацыі выказаў і дырэктар менскай сярэдняй школы №86 Уладзімір Шэндзераў. Адсутнасць беларускай метадычнай літаратуры, няздольнасць (ці свядомае нежаданне) выпускнікоў педагагічных ВНУ весці выкладанне па-беларуску з прычыны ўплыву на іх свядомасць палітычнага становішча ў краіне — усе гэтыя чыннікі працуюць не на карысць нацыянальнага школьніцтва, зазначыў ён. Школы, у якіх паралельна існуюць расійска- і беларускамоўныя класы, не даюць сваім навучэнцам дастаткова добрых ведаў. Прамоўцам было прапанавана дамагацца спецыялізацыі паводле прынцыпу адна школа — адна мова.

"Я думаю, што ў цяперашняй сітуацыі мы не можам прасіць асобных класаў. Гэта прыніжальна — нібыта мы нацыянальная меншасць. Таму пасля мінулагодняга рэферэндуму пытанне трэба ставіць аб абсалютнай роўнасці дзвюх моваў — расійскай і беларускай — як у адукацыі, так і ў іншых сферах жыцця", працягнуў ягоную думку Іван Шамякін.

Прыхільніцай даўняй ідэі элітарнасці беларускай школы аказалася Галіна Багданава. "У кожным гарадскім раёне павінна існаваць школа, дзе адукацыю маглі б атрымліваць будучыя нашыя музыкі, мастакі, паэты і пісьменнікі, гісторыкі, дыпламаты, палітычныя дзеячы... (Прэзідэнты! — прагучала падказка з залы). Гэтымі школамі павінны апекавацца мастакі, матэматыкі, фізікі, каб вучні там атрымлівалі ўзорную адукацыю і маглі паступаць ва ўсе ВНУ. Гэта зробіць беларускую школу прэстыжнай", прапанавала яна, забыўшы аб традыцыі пертаварэння элітарных школаў у школы для дзяцей эліты.

Іншую думку мела Вольга Кузьміч — першы намеснік старшыні ТБМ і загадчыца кафедры беларускай мовы Тэхналагічнага універсітэта.

— Словы аб тым, што нам патрэбная адна школа на раён — здзек і знявага. Стварэнне гэткай рэзервацыі азначае прыніжэнне саміх сябе, асабліва сёння, калі гавораць пра існаванне стваранай на загад уладаў групы, удзельнікі якой навукова абгрунтоўваюць перавагу аднамоўя — зразумела ж, не беларускага. Што ў такіх умовах могуць зрабіць нашыя Таварыствы, якія апынуліся ва ўмовах існавання без усялякай падтрымкі, актывісты якія працуюць на грамадскіх пачатках і, нягледзячы на ўсе свае намаганні, амаль без вынікаў?

Але ж існуе і адваротны бок справы. Уціск беларушчыны выклікае кансалідацыю яе прыхільнікаў. У ТБМ сёння прыходзяць новыя людзі маладога веку, студэнты, якія разумеюць: так быць не павінна. Антынацыянальная палітыка дзяржавы можа даць адваротны вынік: узнікне пакаленне моладзі, якое пойдзе другім шляхам, і можа нават небяспечным, у выпадку, калі да яго жаданняў не прыслухаюцца.

Таму ТБМ мусіць найперш патрабаваць магчымасці атрымання вышэйшай адукацыі на беларускай мове, стварэння Нацыянальнага універсітэта ці універсітэтаў, адназіць тую сістэму адукацыі, якая ў нас была ў перыяд росквіту ВКЛ і якая сёння мае права тут быць!

На жаль, сп.Кузьміч не патлумачыла, якую сістэму адукацыі ўзору ВКЛ яна хоча бачыць у Беларусі — практыку запрашэння замежных гувернёраў, айчынных "дзядзек" і "дырэктараў", ці, можа, сістэму брацкіх школаў?

Невялікая палеміка ўзнікла вакол прапанаванага да разгляду праекта выніковага дакумента "круглага стала". Вельмі эмацыянальна, хаця і не вельмі зразумела аб ім выказаўся сябра Саюза пісьменнікаў Алесь Петрашкевіч:

— Гэта бездапаможна з пункту гледжання публіцыстыкі, тэмы, важнасці! Трэба стварыць такі дакумент, які можна было б назваць маніфестам, каб яго пасля рэферэндуму Прэзідэнт разглядаў першым! Трэба, каб у ім былі словы не пра абарону беларускай мовы, а пра змаганне з шавінізмам на ўсіх узроўнях!

Прамова Леаніда Ціханава, рэктара Педагагічнага універсітэта, была больш стрыманай і больш канкрэтнай. Ён заявіў:

— Дагэтуль існуюць грамадскія арганізацыі, якія мы раней стварылі. Але яны не дзейнічаюць не таму, што іх заціснулі, а таму, што яны і тады працавалі ледзь-ледзь.

Далей сп.Ціханаў падкрэсліў неабходнасць карыстання створанай дзеля абароны мовы юрыдычнай базай, у прыватнасці, законамі аб мовах і аб адукацыі, дзейных дагэтуль. Гэткі спосаб дзеяння дазваляе нават сёння вырашаць пытанні зместу адукацыі, падрыхтоўкі кадраў для ВНУ ды іншыя. Таму, на думку рэктара, патрэбны чынны ўдзел прадстаўнікоў ТБМ, ТБШ і Саюза пісьменнікаў у дапрацоўцы Закона аб адукацыі, якая адбываецца цяпер.

Прамоўца падзяліўся сваімі ўяўленнямі аб стаўленні да беларушчыны студэнцкага асяроддзя і ўплыве на гэтае стаўленне пазіцыі дзяржаўных уладаў.

Выказаная сп.Ціханавым ідэя супрацоўніцтва з уладамі ў справе законатворчасці атрымала нечаканае развіццё. З вуснаў аднаго з удзельнікаў "круглага стала" прагучала звестка аб нібыта існуючым у прэзідэнцкай адміністрацыі праекце закона ў падтрымку беларускай мовы і прапанова паўдзельнічаць у яго канчатковым фармуляванні. Аднак захаплення падобнай ідэяй не выказаў ніхто — пэўна, з прычыны добрага знаёмства з пазіцыяй дзяржаўнага кіраўніцтва.

Тамара Саўчук — галоўны інспектар Міністэрства адукацыі і навукі і адна з нешматлікіх прадстаўнікоў дзяржавы на "круглым стале" — у сваёй прамове выказала сваю шчырую прыхільнасць да беларушчыны. Далей яна патлумачыла асаблівасці ўжываных у сферы адукацыі нарматыўных актаў, якія патрабуюць для фармавання школьнага класа пэўнай мінімальнай колькасці заяваў бацькоў. Адмаўленне ад гэтай практыкі дазволіла б, на думку сп-ні Саўчук, фармаваць беларускія класы нават пры наяўнасці мінімальнай колькасці заяваў.

— Існуе Канстытуцыя, існуюць нікім не скасаваныя чалавечыя правы на свабодны выбар мовы навучання. Але ў школу прыходзіць чалавек, які хоча, каб яго дзіця вучылася па-беларуску, і пачынае дзейнічаць не права, а падзаконны акт — інструкцыя аб напаўняльнасці класаў. Гэта — скажоная логіка, такое немагчыма ні ў якой нармальнай дзяржаве, а толькі ў нашым дурдоме. Вы павінны гэткі ліст адаслаць назад з каментарам: сумленны чалавек выканаць яго не можа — так пракаментіраваў словы сваёй папярэдніцы яе калега, выкладчык Радыётэхнічнага універсітэта Васіль Юферaў.

— І ТБМ, і ТБШ разумеюць ролю законаў і падзаконных актаў у вырашэнні праблемаў, якія мы сёння абмяркоўваем. Прааналізаваўшы новы праект Закона аб адукацыі — бо менавіта новым праектам ёсць тое, што афіцыйна называецца папраўкамі, прадстаўнікі нашых арганізацый дамаўляліся з адпаведнай камісіяй Вярхоўнага Савета аб сустрэчы. Але, на жаль, нашыя неадназаразовыя дамоўленасці ламаліся прадстаўнікамі ўладаў, дадаў да ягоных словаў прэзідэнт ТБШ Генадзь Пятроўскі.

— Я сам быў дзяржаўным чыноўнікам, — працягнуў ён далей,— і ведаю, што мноства людзей у сістэме адукацыі з прыхільнасцю ставіцца да беларушчыны. Але не яны вызначаюць пазіцыю міністэрства. Таму мы мусім звярнуцца да Міністэрства адукацыі, каб яно выказала нарэшце сваю пазіцыю ў справе моўнай роўнасці. Бо што стаіць за гэтымі словамі, якія трапілі і ў Канстытуцыю, — не тлумачыць ніводзін закон. І кожны трактуе законы, як хоча.

Акрамя гэтых прамоўцаў, сваім бачаннем праблемаў беларускай школы падзяліліся іншыя ўдзельнікі "круглага стала" — прадстаўнікі грамадскіх і палітычных арганізацый, урадавыя чыноўнікі сферы адукацыі, прыватныя асобы.

Вынікам супольнага абмеркавання стану нацыянальнай школы стаў прыняты на пасяджэнні зварот да грамадзян Беларусі, у тым ліку кіраўнікоў урада, адукацыйных арганізацый і ўстановаў, тэкст якога друкуецца ніжэй.

### ЗВАРОТ

Мы, удзельнікі "круглага стала" "Беларуская школа: стан і перспектывы развіцця", арганізаванага Таварыствам беларускай мовы, Таварыствам беларускай школы і Саюзам пісьменнікаў, канстатуем: апошнім часам адбываецца раптоўнае абмежаванне сферы ўжывання беларускай мовы ў дзіцячых садках, школах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Уладамі прапагандуецца ідэя "свабоднага выбару бацькамі мовы навучання", у той час, як прыярытэт у грамадскім і дзяржаўным жыцці надаецца расійскай мове.

Мы рашуча заяўляем:

— беларуская мова была і застаецца дзяржаўнай мовай нашай краіны, усе дзяржаўныя служачыя павінны свабодна ёй валодаць;

— адпаведна законам беларуская мова з'яўляецца сродкам навучання і выхавання ва ўсіх установах Рэспублікі Беларусь і любое абмежаванне на атрыманне ў ёй адукацыі мусіць карацца законам.

Мы заклікаем усіх прыхільнікаў беларушчыны стварыць суполкі ТБМ і ТБШ ва ўсіх рэгіёнах краіны, а таксама аказваць юрыдычную і маральную падтрымку людзям, што жадаюць даць сваім дзецям адукацыю на беларускай мове.

Мы патрабуем ад кіраўніцтва краіны зрабіць захады да надання належнага статуса беларускай мове, надаць ёй прыярытэт ў дзяржаўнай палітыцы, стварыць умовы матэрыяльнага стымулявання беларускамоўных выкладчыкаў, гарантаваць паўнапраўнае функцыянаванне мовы ва ўсіх сферах дзяржаўнага кіравання, грамадскага і культурнага жыцця, прафесійнай дзейнасці.

*Менск, 27 лістапада 1996 г.*

*Уражанні*

# "Востраў" беларускасці ў ВТВ тым ёсць...

З арміі Сяргея Уладзіміравіча Граніка звольнілі па скарачэнні ў 1992 годзе. Пасля таго, як на плошчы Незалежнасці ў Менску ён, малады афіцэр-палітработнік, маёр па званні, прысягнуў на вернасць Беларусі разам з іншымі сябрамі Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў. Літаральна праз некалькі дзён у яго папярэдзілі, што ён "персона нон грата". Прыпомнілі і тое, што ён адзіны ў вайсковай часці сярод афіцэраў праводзіў з салдатамі заняткі па беларускай мове.

На шчасце, у Слуцкім вытворча-тэхнічным вучылішчы № 132 металістаў знайшлося месца выкладчыка гісторыі Беларусі і грамадазнаўства. Сяргей Уладзіміравіч з першых дзён загарэўся жаданнем па-новаму абсталяваць кабінет гісторыі. У час летняй практыкі навучэнцаў падшукаў сярод іх добрых памочнікаў і за параўнаўча кароткі тэрмін стварыў маляўнічы "астравок" беларускасці. Аформiў восем стэндаў, напісаных на беларускай мове, з ілюстрацыямі і фактамі, пачэрпнутымі з новых падручнікаў па гісторыі, што выйшлі ў свет у гады "адлігі". Першы пры ўваходзе ў кабінет, злева, стэнд "Гонар нацыі" — прысвечаны знакамітым людзям Беларусі: Ефрасінні Полацкай, Кірылу Тураўскаму, Сямёну Полацкаму, Францішку Скарыну, Тадэвушу Касцюшку, Кастусю Каліноўскаму, Кірылу Астрожскаму, Льву Сапегу, Сымону Буднаму, Васілю Быкаву. З іх партрэтамі і кароткімі біяграфічнымі даведкамі. Уражваюць сваёй гістарычнай праўдай і даходлівасцю стэнды "Вялікае Княства Літоўскае", "Беларусь у складзе Расіі", "Пабудова сацыялістычнага грамадства", "Стварэнне БНР і БССР" — з напамінкам пра Слуцкі Збройны чын 1920 года, пра страшныя часіны калектывізацыі і раскулачвання, рэпрэсіі 30-х гадоў, ахвярамі якіх стала звыш 600 тысяч беларусаў. Ярка і даходліва пададзеныя гістарычныя факты на стэндах, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, сучаснай Рэспубліцы Беларусь.

На стэндзе, прысвечаным г. Слуцку, які сёлета адзначыў сваё 880-я ўгодкі, суседнічаюць два гербы горада — Пагоня і іншы, прыняты нядаўна па рашэнні гарсавета — Пегас. Штомесячна выходзіць насценная газета "Паходня", на якой адлюстроўваюцца важнейшыя падзеі ў жыцці Рэспублікі Беларусь. Выхаванцы Сяргея Уладзіміравіча, будучыя металісты, рэгулярна чытаюць свежыя нумары газет "Наша слова" і "Народная воля", падшыўкі якіх ёсць у кабінеце. Абедзве гэтыя газеты з першых дзён іх выхаду ў свет, выпісвае сам выкладчык і прыносіць сюды — для падшыўкі. Больш таго, у першым паўгоддзі не менш дванаццаці навучэнцаў па ініцыятыве Сяргея Уладзіміравіча з'яўляліся падпісчыкамі "Нашага слова". Апошнім часам ён праводзіў работу з навучэнцамі па афармленні падпіскі на гэтую газету на першы квартал будучага года. Пры сустрэчы са мною запэўніваў, што гарантуе не менш дзесяці экземпляраў падпіскі, а магчыма больш. Сам жа выпісвае "Наша слова" ўжо пяць гадоў.

Не ўсе ў вучылішчы падзяляюць погляды Сяргея Уладзіміравіча на ніве беларускасці. Чуў ён не раз за сваёй спіной кпіну "нацыяналіст". Толькі не ў характары былога вайскоўца апускаць рукі, палохацца. Ёсць у яго і сярод выкладчыкаў аднадумцы. У прыватнасці, добра абсталявалі кабінет беларускай мовы і літаратуры выкладчыца Тамара Сяргееўна Сяркова і намеснік дырэктара па вьхаваўчай рабоце Валеры Міхайлавіч Казлоўскі. Сяргей Уладзіміравіч адчувае сваю духоўную повязь з імі, а гэта надае сілы і ўпэўненасці ў тым, што, нягледзячы на сумныя вынікі мінулагодняга рэферэндуму, мова дзесяцімільённага народа не павінна згінуць. Кожны дзень, сустракаючыся са сваімі навучэнцамі, ён гэта адчувае па іх настроях, зацікаўленасці пытаннямі ўмацавання незалежнасці краіны, зберажэння усяго таго, што ўдалося дасягнуць за гады адраджэння.

**М. ТЫЧЫНА.**
г. Слуцк.

 



*У сваіх лістах у рэдакцыю нашыя чытачы ці раз прасілі падаць звесткі пра нацыянальныя маладзёжныя арганізацыі. Гэтая публікацыя падрыхтаваная на іх просьбу кіраўніцтвам адной з такіх арганізацый, якая мае назву*

### Аб'яднанне беларускіх скаўтаў

Аб'яднанне беларускіх скаўтаў (АБС) створанае 21 сакавіка 1992 года. Зарэгістраванае Міністэрствам юстыцыі 12 жніўня 1992 г.(пасведчанне № 400), перарэгістраванае 28 чэрвеня 1995 г. (пасведчанне № 0429).

Гэта — самастойная непалітычная добраахвотная арганізацыя дзяцей, моладзі і дарослых без абмежаванняў паводле паходжання і нацыянальнасці, полу і веравызнання. Сябры АБС лічаць сябе паслядоўнікамі сусветнага скаўцкага руху, заснаванага ў 1907 г. англічанінам Робертам Бадэн Пауэлам, і пераемнікамі беларускіх скаўцкіх дружын Заходняй Беларусі і Згуртавання беларускіх скаўтаў чужыны (ЗБСЧ).

Рабочая мова арганізацыі — беларуская.

### Задачы АБС:

- спрыянне рэалізацыі праграм Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху (САСР);
- усебаковае развіццё дзяцей і моладзі;
- выхаванне нацыянальна свядомай асобы праз гісторыю, краязнаўства, народную культуру і мастацтва, фальклор, этнаграфію і інш.

### Прынцыпы:

- абавязак перад Богам і Бацькаўшчынай, адданасць духоўным пачаткам;
- абавязак перад іншымі, узаемаразуменне і супрацоўніцтва з усімі;
- абавязак у адносінах да сябе, адказнасць за асабістае развіццё, адданасць скаўцкаму прырачэнню і праву.

Метад прагрэсіўнага самавыхавання праз:

- прырачэнне і скаўцкае права;
- набыццё ведаў праз дзейнасць;
- сяброўства ў малых групах, якое ўключае адказнасць і падрыхтоўку да самакантролю, накіраванага на развіццё характару, набыцця вопыту, упэўненасці ў сабе і надзейнасці, здольнасці як да супрацоўніцтва, так і да кіраўніцтва;
- прагрэсіўныя і заахвочвальныя праграмы розных мерапрыемстваў, заснаваных на інтарэсах удзельнікаў, уключаючы карысныя навыкі, службу грамадству і гульні (рэалізуюцца пераважна на адкрытым паветры).

Падзел па ўзросту:

- спаборнікі (назвы арганізаваным групам даюцца самімі сябрамі) — 7-11 год;
- малодшыя скаўты —11-15 год;
- скаўты — 15-18 год;
- праваднікі і аніматары —18-26 год;
- лідэры — з 26 год.

### Скаўцкае права:

- гонару скаўта трэба давяраць;
- скаўт адданы, служыць Бацькаўшчыне і свайму Народу;
- скаўт добразычлівы, ветлівы, сяброўскі, дапамагае іншым;
- скаўт — сябра ўсім і брат любому скаўту;
- скаўт загартоўвае моцны характар, адвагу і мужнасць;
- скаўт любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць;
- скаўт падпарадкоўваецца сваім бацькам і куратару;
- скаўт жыццярадасны і не губляе настрою;
- скаўт ашчадны;
- скаўт чысты ў думках, словах і справах.

### Кліч

"Напагатове!" Адказ: "Заўсёды!"
"Жыве Беларусь" Адказ: "Жыве!"

### Нас, скаўтаў, у 215 краінах больш за 25 мільёнаў.

АБС падтрымлівае сувязь з САСР (Жэнева), офісам САСР у СНД (Ялта-Гурзуф), Асацыяцыяй скаўтаў Польшчы, Украінскай скаўцкай арганізацыяй "Пласт", Саюзам расійскіх скаўтаў імя Св. Уладзіміра, нацыянальнымі арганізацыямі Францыі, Германіі, ЗША, Бельгіі і інш.

### Нашы кантактныя тэлефоны ў харугвах:

Баранавічы — Алесь Бокач. Т.73-733.
Буйкі — Бярнард Пакульніцкі. Т.52-838.
Вілейка — Пётра Баслык. Т.73-387. Віталь Паўлоўскі. Т.54-630
Віцебск — Тамара Марчык. Т.10-735.
Гомель — Уладзіслаў Канавалаў. Т.333-969.
Гродна — Ігар Лапеха. Т.332-884.
Дудкі — Ірына Бялячыц. Т.42-547.
Маладзечна — Алесь Чарняўскі. Т.32-226. Ян Кажамяка. Т.71-986
Орша — Мікола Абрамовіч. Т.42-465.
Парэчча — Соф'я Амельяновіч. Т.993-284.
Рагачоў — Валерый Любагошчаў. Т.21-971.
Руба — Вячаслаў Белавус. Т.915-952.

Адрас цэнтральнай сядзібы: 220040 г.Менск, вул.Някрасава, 5а. БЦГЦ-АБС

**Тлумачальны палітычны слоўнік**

# Рэферэндумная дэмакратыя

*(Заканчэнне.)*

Рэферэндум 24 лістапада 1996 года адбыўся зусім нядаўна. Чытачы былі сведкамі і ўдзельнікамі гэтай кампаніі і ведаюць, як і ў якіх умовах ён праводзіўся. Таму няма патрэбы падрабязна аналізаваць ход падрыхтоўкі да яго. Што датычыцца працэдуры галасавання, вынікаў рэферэндуму і яго наступстваў, тут ёсць аб чым гаварыць.

Ход галасавання найлепш адлюстраваны ў дакуменце, цалкам заснаваным на пісьмовых сведчаннях грамадскіх назіральнікаў. Гэты дакумент шырока распаўсюджаны ў свеце ў расійска- і англійскамоўных варыянтах і ў значнай ступені паўплываў на стаўленне замежных краін да вынікаў беларускага рэферэндуму. Паколькі ён амаль незнаёмы беларускаму чытачу, прывядзём яго цалкам.

### Інфармацыя грамадскай кантрольнай камісіі па назіранні за рэферэндумам

Грамадская кантрольная камісія была створана рашэннем "круглага стала" ў верасні 1996 года. Палітычныя партыі і грамадскія арганізацыі, якія ўвайшлі ў склад "круглага стала", дамовіліся аб каардынацыі дзеянняў пры ажыццяўленні кантролю за правядзеннем рэспубліканскага рэферэндуму. Магчымасць грамадскага кантролю прадугледжана артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) ў Рэспубліцы Беларусь" (далей — Закон аб рэферэндуме).

Рашэннем Вярхоўнага Савета рэферэндум і дадатковыя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета былі прызначаныя на 24 лістапада. Згодна з артыкулам 28 Закона аб рэферэндуме грамадзянам, якія ў дзень галасавання не змогуць прыбыць на ўчасткі, прадастаўляецца магчымасць прагаласаваць датэрмінова, за 15 дзён, такім чынам галасаванне па рэферэндуме пачалося 9 лістапада.

Прадстаўнікі палітычных партый і грамадскіх арганізацый ажыццяўлялі назіранне за правядзеннем рэферэндуму ў 132-х раёнах, раёнах у гарадах, гарадах абласнога падпарадкавання з 173-х адпаведна адміністрацыйнаму падзелу. Кантролем было ахоплена каля 50% усіх участкаў. У буйных гарадах (Менск, Магілёў, Бярэсце, Гародня) назіральнікі наведвалі ўсе ўчасткі.

Парушэнні заканадаўства зафіксаваны на этапе падрыхтоўкі да рэферэндуму. Згодна з пастановай Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў Рэспублікі Беларусь (далей — Цэнтральная камісія) ад 19.09.1996 г. у тых рэгіёнах Беларусі, дзе былі прызначаны дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў, функцыі камісіяў па рэферэндуме былі ўскладзены на выбарчыя камісіі, створаныя раней. У парушэнне гэтай пастановы ў шэрагу выпадкаў былі створаны новыя камісіі; са складу выбарчых камісій, якія працягвалі ажыццяўляць свае паўнамоцтвы, выканаўчая ўлада самавольна выключыла прадстаўнікоў палітычных партыяў дэмакратычнай арыентацыі, што з'яўляецца парушэннем артыкула 25 Закона "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".

Камісія канстатуе, што на момант пачатку датэрміновага галасавання былі парушаны артыкулы 7 і 31 Закона аб рэферэндуме. Ні адзін з двух праектаў Канстытуцыі, вынесеных на рэферэндум, не быў надрукаваны ў канчатковым варыянце і адсутнічаў на ўчастках для галасавання. Праект Канстытуцыі, прапанаваны Прэзідэнтам, быў апублікаваны 11 лістапада і трапіў на ўчасткі не раней 13-га; праект, вынесены Вярхоўным Саветам, быў апублікаваны 21 лістапада (пасля таго, як галасаванне ішло ўжо 13 дзён), аднак нават у дзень рэферэндуму, 24-га, на большасці ўчасткаў адсутнічаў.

Друкарскім спосабам вялікімі тыражамі былі надрукаваныя і дастаўляліся выбаршчыкам запрашэнні прагаласаваць датэрмінова "па жаданні", што з'яўляецца парушэннем артыкула 28 Закона аб рэферэндуме і Пастановы Вярхоўнага Савета па яго растлумачэнні, згодна з якімі датэрмінова *прагаласаваць маюць права толькі тыя грамадзяне, якія могуць дакументальна пацвердзіць сваю адсутнасць у Рэспубліцы Беларусь у дзень рэферэндуму.*

Такім чынам, датэрміновае галасаванне ад пачатку праходзіла як незаконнае.

У ходзе датэрміновага галасавання назіральнікамі Кантрольнай камісіі зафіксаваныя наступныя **паўсюдныя** парушэнні Закона аб рэферэндуме і прынятых у адпаведнасці з ім нарматыўных актаў:

1) Не былі выраблены спецыяльныя скрыні для датэрміновага галасавання (парушана пастанова Цэнтральнай камісіі ад 10.09.1996 г.).

2) Не выконваўся рэгламентаваны час галасавання з 10 да 14 у выхадныя і з 16 да 19 гадзін у буднія дні (парушана пастанова Цэнтральнай камісіі ад 31.10.1996 г.).

3) Не высвятляліся матывы датэрміновага галасавання і не патрабавалася іх дакументальнае пацвярджэнне (парушэнне артыкула 28 Закона аб рэферэндуме і Пастановы Вярхоўнага Савета № 788—XII).

4) Члены ўчастковых камісій дапамагалі выбаршчыкам запаўняць бюлютэні для галасавання, адначасова іх агітуючы (парушаны артыкулы 7 і 32 Закона аб рэферэндуме).

5) Ва ўсіх памяшканнях участкаў, на сталах выбарчых камісіяў, у кабінах для тайнага галасавання былі размешчаныя "ўзоры" запоўненых бюлетэняў, якія паказвалі, як трэба галасаваць "за" прапановы Прэзідэнта і "супраць" прапановаў Вярхоўнага Савета (парушэнне артыкула 7 Закона аб рэферэндуме). У шэрагу выпадкаў у такім "агітацыйным матэрыяле" адсутнічалі нават тэксты пытанняў, а стаялі толькі іх нумары і словы "за" і "супраць", адпаведным чынам закрэсленыя.

Акрамя таго, зафіксаваныя **шматлікія** факты парушэння заканадаўства на асобных участках, з якіх **найбольш агульнымі** з'яўляюцца наступныя:

1) Адсутнасць кабін для тайнага галасавання (парушэнне артыкула 31 Закона аб рэферэндуме).

2) Скрыні для датэрміновага галасавання не былі апячатаныя ў належным парадку (парушэнне пастановы Цэнтральнай камісіі ад 19.09.1996 г.).

3) Бюлетэні не былі падпісаныя членамі камісіі (парушэнне пастановы Цэнтральнай камісіі ад 19.09.1996 г.).

4) Канверты з бюлетэнямі не апускаліся ў апячатаныя скрыні, камісіі складвалі іх у сейф (парушэнне пастановы Цэнтральнай камісіі ад 31.10.1996 г.).

5) Адсутнасць спісаў выбаршчыкаў, вывешаных для ўсеагульнага азнаямлення (парушэнне артыкула 28 Закона аб рэферэндуме).

Назіральнікі зафіксавалі таксама шматлікія факты незаконнай агітацыі грамадзян за датэрміновае галасаванне, уціск на іх з боку адміністрацыі прадпрыемстваў, дзе яны працуюць, прамы прымус да датэрміновага галасавання.

Камісія адзначае, што паўсюдна назіральнікам, прадстаўнікам палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў рабіліся перашкоды пры ажыццяўленні кантролю як з боку камісій па рэферэндуме, так і з боку раённых адміністрацый; іх не дапускалі на ўчасткі, адмаўлялі ў атрыманні інфармацыі, ігнаравалі патрабаванні спыніць парушэнні закона. Звароты ў органы пракуратуры, як правіла, былі безвыніковымі.

Прымаючы да ўвагі шматлікія парушэнні заканадаўства пад час датэрміновага галасавання, якія выключаюць аб'ектыўнае тайнае і добраахвотнае волевыяўленне грамадзян, правядзенне яго ва ўмовах, якія робяць магчымымі любыя фальсіфікацыі, а таксама немагчымасць высвятлення сапраўдных вынікаў галасавання, Кантрольная камісія прыняла рашэнне не праводзіць назіранне за ходам рэферэндуму 24 лістапада, не прысутнічаць пры падліку галасоў і ні ў якой форме не сведчыць вынікі галасавання.

Разам з тым, было вырашана пакінуць назіральнікаў на тых участках, дзе праходзілі давыбары ў Вярхоўны Савет, пракантраляваць ход галасавання і прысутнічаць пры падліку галасоў па выбарах. Назіральнікі на гэтых участках фіксавалі і парушэнні заканадаўства па рэферэндуме.

На ўсіх участках скрыні для датэрміновага галасавання былі выкарыстаныя для правядзення асноўнага галасавання і галасавання па выбарах. Такім чынам, была выключаная магчымасць праверкі скрыняў да пачатку галасавання, што з'яўляецца грубейшым парушэннем артыкула 31 Закона аб рэферэндуме і артыкула 48 Закона аб выбарах.

Камісіі адмовіліся даць інфармацыю назіральнікам аб колькасці выбаршчыкаў па ўчастку, унесеных у спісы. Назіральнікі паведамляюць аб шматлікіх фактах, калі выбаршчыкі высвятлялі, што ў спісах яны адсутнічаюць, што сведчыць аб імкненні камісій знізіць норму, неабходную для прыняцця рашэння.

Назіральнікі адзначаюць, што члены камісій пры выдачы бюлетэняў па рэферэндуме вялі агітацыю ў падтрымку Прэзідэнта, выкарыстоўвалі агітацыйныя матэрыялы, што паказвалі, як "правільна" запоўніць бюлетэнь, у многіх выпадках самі запаўнялі бюлетэні для грамадзян сталага ўзросту.

Бюлетэні выдаваліся выбаршчыкам без прад'яўлення пашпарта ці дакумента, які яго замяняе; адзначана вялікая колькасць фактаў, калі аднаму выбаршчыку выдавалі некалькі бюлетэняў.

Пасля скнчэння галасавання нявыкарыстаныя бюлетэні пагашаліся без папярэдняга падліку. Усе назіральнікі адзначаюць, што бюлетэняў было значна болей, чым выбаршчыкаў па ўчастку. Практычна ва ўсіх выпадках камісіі адмовіліся паведаміць назіральнікам колькасць бюлетэняў, атрыманых перад галасаваннем.

Назіральнікі адзначаюць, што камісіі, выдаючы бюлетэні па рэферэндуме, не заўсёды прапаноўвалі выбаршчыкам бюлетэні па выбарах і рабілі гэта толькі па просьбах самых выбаршчыкаў. Улічваючы тое, што ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі якая-небудзь інфармацыя пра выбары адсутнічала, такія дзеянні былі яўна скіраваныя на зрыў выбараў.

Пасля падліку галасоў камісіі адмаўляліся паведаміць назіральнікам вынікі.

Кантрольная камісія мае копіі звыш паўтары тысячы пратаколаў аб парушэннях заканадаўства. Частка з іх перададзеная ў пракуратуру. Частка пратаколаў аб парушэннях, якія патрабавалі тэрміновага рэагавання, была перададзеная старшыні Цэнтральнай камісіі В.І.Ганчару. У сувязі з адхіленнем яго ад пасады лёс пратаколаў невядомы. Меры па іх прынятыя не былі.

Пацвярджэннем масавых фальсіфікацыяў вынікаў галасавання з'яўляюцца афіцыйныя даныя аб колькасці выбаршчыкаў, якія прагаласавалі 24 лістапада з 18 да 22 гадзін, і параўнанне гэтых даных па ўчастках, дзе галасаванне адбывалася толькі па рэферэндуме з данымі па ўчастках, дзе галасаванне ішло адначасова па рэферэндуме і па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета:

| Берасцейская вобл. | Віцебская вобл. | Гомельская вобл. | Гарадзенская вобл. | Менская вобл. | Магілёўская вобл. | г.Менск |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі з 18 да 22 гадзін (%)* | | | | | | |
| 25.1 | 26.2 | 23.4 | 23.5 | 22.9 | 26.4 | 26.6 |
| *Колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі з 18 да 22 гадзін на ўчастках, дзе было галасаванне па рэферэндуме і па выбарах (%)* | | | | | | |
| 7.2 | 5.8 | 7.0 | 8.0 | 8.6 | 5.0 | 13.7 |
| *Колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі з 18 да 22 гадзін на ўчастках, дзе было галасаванне толькі па рэферэндуме (%)* | | | | | | |
| 31.5 | 30.7 | 26.2 | 30.0 | 24.4 | 30.5 | 42.7 |

Высновы:

Грамадская кантрольная камісія лічыць, што пры правядзенні рэферэндуму мелі месца парушэнні заканадаўства ў такіх маштабах, што яны аказалі ўплыў на вынікі рэферэндуму. Органа, які на законных падставах мог бы падвесці гэтыя вынікі, не існуе, паколькі згодна з артыкулам 20 Закона аб выбарах Цэнтральная камісія з 13.10.1996 г. не з'яўляецца правамоцнай. У сувязі з гэтым, кіруючыся артыкулам 53 Закона аб выбарах, Камісія не лічыць абвешчаныя вынікі рэферэндуму сапраўднымі.

**Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ,**
**старшыня Кантрольнай камісіі,**
**сустаршыня Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва".**

3.12.1996 г.

Падкрэслім, што прыведзеная вышэй інфармацыя заснавана на **дакументальных сведчаннях**, сабраных самаахвярнай працай тысяч людзей, пераважна сяброў Беларускага Народнага Фронту. Гэтыя сведчанні тым больш важныя, што дазваляюць зрабіць шэраг важных высноў.

Па-першае, факты масавых фальсіфікацый і іншых парушэнняў заканадаўства абвяргаюць тэзу аб "усенароднай падтрымцы" прэзідэнта Беларусі. Навошта фальсіфікаваць, калі ўпэўнены, што цябе падтрымлівае большасць? Відаць, такой упэўненасці ўжо няма.

Па-другое, перад міжнароднай грамадскасцю засведчана змена канстытуцыйнага ладу у Беларусі з дапамогай антызаконных дзеянняў. У выніку заходнія краіны легітымнасць цяперашняга беларускага кіраўніцтва не прызнаюць. На практыцы гэта азначае амаль поўную палітычную і эканамічную блакаду.

У дэмакратычных колах нашай дзяржавы, сярод нацыянальна свядомай інтэлігенцыі пасля рэферэндуму існуе пэўнае расчараванне і разгубленасць. Вынікі рэферэндуму ўспрымаюцца як параза. Давайце паразважаем на гэтую тэму. І найперш адкажам на пытанне: "А што змянілася на Беларусі пасля рэферэндуму, а калі змянілася, дык каму стала горш і каму — лепш?"

Прэзідэнт "атрымаў" магчымасць кіраваць дзяржавай на падставе сваіх указаў і дэкрэтаў, якім ніхто не можа пярэчыць і якія маюць сілу закона. Фактычна не існуе органа, які б меў магчымасць аспрэчыць дзеянні Прэзідэнта і дамагчыся спынення іх выканання, калі гэта супярэчыць законам. А што, няўжо да 24 лістапада было інакш? Хіба Вярхоўны Савет, які абавязаны кантраляваць выкананне прынятых ім законаў, хоць у адным выпадку спыніў выкананне антызаконных указаў? Не мае сэнсу разважаць, чаму гэта не было зроблена, **гэта зроблена не было!** Што змянілася цяпер? Ва ўнутраным жыцці беларускай дзяржавы — нічога, у знешнім — Вярхоўны Савет на чале з С.Шарэцкім застаецца законным парламентам Беларусі, між тым як легітымнасць створанага цяпер псеўдапарламента фактычна нулявая.

Дзень незалежнасці перанесены з 27-га на 3-е ліпеня? А хіба афіцыйная ўлада калі-небудзь святкавала 27 ліпеня? І хто забароніць нацыянальна свядомым беларусам адзначаць і 25 сакавіка, і 27 ліпеня і іншыя даты, якія з'яўляюцца вехамі ў нашай гісторыі?

Не мае сэнсу нават разважаць пра вырашэнне пытанняў аб смяротным пакаранні і свабодным без абмежаванняў продажы зямлі. Гэтыя пытанні заўсёды ва ўсім свеце (і ў нас) вырашаліся безадносна да грамадскага меркавання, зыходзячы з прагматычных мэтаў уладаў ці ўладароў. І ніякае галасаванне нічога тут не памяняе.

Такім чынам, ніякіх значных станоўчых вынікаў ініцыятар рэферэндуму 1996 года не дасягнуў. Тое, што мусіруецца зараз у прэсе, у тым ліку і незалежнай, — знішчэнне дэмакратычнай апазіцыі, не адпавядае сапраўднасці. Разбурэнне (нават не знішчэнне і не разгон) Вярхоўнага Савета — гэта не знішчэнне апазіцыі. Гэта згвалтаванне таго, хто ад пачатку млява чакаў, пакуль яго згвалцяць, не маючы здольнасці да супраціўлення. І ўвогуле, ніколі Вярхоўны Савет XIII склікання не быў дэмакратычным.

Дэмакратычная апазіцыя — гэта тыя людзі, якія суткамі, у любое надвор'е, стаялі на плошчы Незалежнасці, абараняючы Вярхоўны Савет як дэмакратычны інстытут. Дэмакратычная апазіцыя — гэта палітычныя партыі, якія аб'ядналіся на антыдыктатарскай платформе і каардынавалі свае дзеянні безадносна ўласных палітычных мэтаў. Гэтае аб'яднанне, ягонае выпрабаванне і ёсць галоўны вынік рэферэндуму. Так, гэтае выпрабаванне паказала слабасць палітычнай апазіцыі рэжыму, аднак яно дало вопыт і паказала перспектыву працы. Застаецца гэта ўсвядоміць, застаецца прааналізаваць памылкі і дасягненні і **з аптымізмам** працаваць далей.

А рэферэндум быў і застаецца магутнай і каварнай зброяй, якая здольная бумерангам ударыць па сваім жа бацьку-ініцыятары.

Сумны вопыт карыстання інстытутам рэферэндуму на Беларусі прыводзіць нас да высновы, што лепш гэтай супердэмакратыяй не карыстацца. Трэба даверыцца вопыту іншых краін, такіх як Германія і ЗША, дзе на федэральным узроўні рэферэндумы не праводзяцца, і ніхто не абвінавачвае гэтыя краіны ў недахопе дэмакратыі.

**Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ,**
**Вера ЧУЙКО.**

 

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

**Францішак Багушэвіч.**

**Беларускае адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# ТАЯМНІЦА "Сінонімы славенароскай"

Да спадчыны Івана Ужэвіча, як паказвае ўважлівы тэксталагічны аналіз, прымыкае жамчужына старабеларускай лексікаграфіі "Сіноніма славенароская". Вучоныя адносяць яе да XVII стагоддзя, пары нашай агульнай з украінцамі моўнай супольнасці. Гэта, магчыма, адзін з самых апошніх помнікаў беларуска-украінскай этнічнай еднасці. Вядома, еднасці ў тагачасным яе значэнні, бо сучасных каларытна ўкраінскіх слоў у "Сініоніме" не так ўжо і шмат.

Але калі мы ведаем час напісання і месца выдання "Лексіса" Л. Зізанія і "Лексікона" П. Бярынды, можам будаваць гіпотэзы адносна аўтарства "Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста", то пра "Сініоніму славенароскую" час да нас амаль не данёс нічога.

Страчана імя яе складальніка, мы не маем ніякіх звестак пра яго жыццё і дзейнасць, адсутнічаюць матэрыялы, якія маглі б растлумачыць нам, з якой нагоды быў напісаны слоўнік. Адным словам, у распараджэнні вучоных няма амаль ніякіх фактаў, кім, дзе, калі, у якім лінгвістычным асяродку была створаная "Сінонімa славенароская". Нават пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці аўтара з'яўляецца дыскусійным і заблытаным.

Здавалася, усе звесткі страчаныя, згубіліся, але захавалася галоўнае — тэкст самога помніка, які пра многае можа нам паведаць і найперш пра рэдкую лінгвістычную культуру, якой валодаў аўтар "Сінонімы славенароскай".

Відавочна, што слоўнік гэты быў складзены пазней сваіх славутых папярэднікаў, і аўтар яго ўдала скарыстаў вопыт Л. Зізанія, П. Бярынды і іншых вядомых лексікографаў таго часу.

У даследнікаў і да гэтай пары няма пэўнай думкі адносна характару і мэты прызначэння "Сінонімы славенароскай", і загадку яе ва ўсім яшчэ належыць разгадаць.

І калі ўкраінскія вучоныя старэйшага пакалення П.Жыцецкі і Я.Янаў лічылі "Сініоніму славенароскую" зваротнай пераробкай "Лексікона славенароскага" П.Бярынды, то пазнейшыя даследаванні знаходзяць уплыў "Лексікона..." толькі на першую частку "Сінонімы..." Уважлівае сучаснае прачытанне помніка паказвае, што аўтар ішоў арыгінальным шляхам, выпрацоўваючы свае прынцыпы падачы слоў і іх тлумачэння.

Чаму аўтар увогуле тлумачальна-перакладны па сваёй структуры слоўнік назваў "Сінонімай"? Ці не тут ключ да адгадкі характару слоўніка, мэты, да якой ён ствараўся?

Мы не можам не адзначыць, што ў першай, т. зв. рэестравай, частцы слоўніка даволі строга вытрыманая старабеларуская лексіка, якая гэтак жа паслядоўна перакладаецца ў другой, тлумачальнай, частцы на стараруcкую. У апошняй сустракаецца яшчэ няма-ла стараславянізмаў, што адпавядала тагачаснаму стану рускай мовы. Багаты стараславянскі элемент мы, як вядома, яшчэ назіраем у рускай літаратурнай мове і ў значна пазнейшыя эпохі.

Мяркуючы па ўсім, гэта зусім іншы па сваім прызначэнні слоўнік у параўнанні з "Лексісам з талкаваннем славенскіх моў проста", "Лексісам" Л. Зізанія, "Лексіконам..." П. Бярынды. Старажытныя слоўнікі, у тым ліку і вышэй памянёныя, звычайна ўяўлялі сабой вытлумачэнне лексікі вузкарэгіянальнай, мясцовай мовы пры дапамозе мовы міжнародных зносін, якую ўяўлялі сабой стараславянская мова ў славянскім свеце, лаціна — у Заходняй Еўропе.

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

*Валянціна ВЫХОТА,*
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

*Ўскіпеў Прашвара* **ўмомант**
*вока*
*Дуга была тут недалёка —*
*Ляжала тут жа пад рукою —*
*І за Абрыцкім ён з дугою.*

**Вокаімгнення** прысл. За вельмі кароткі час (ТСБМ). Augenblick, der *sehr kurze Zeitspanne*, *Moment* (WDG).

Augenblick m миг, мгновение; момент; im Augenblick в одно мгновение; мгновенно (GDRW).

Параўнайце: вока — Auge n.

***Гарэлка**, радасць-весялуха,*
*Прыемна булькае для вуха*
*І гэтак вочы прыцягае,*
*Ну, як каханка маладая.*

**Гарэлка**. Моцны алкагольны напітак; сумесь віннага спірту з вадой (ТСБМ).

**Branntwein,** der scharfes, stark alkoholisches Getränk, das durch Garung und anschließende Destillation gewonnen wird; eine Flasche Branntwein (WDG).

Branntwein m (выдержанная) водка (GDRW).

Параўнайце: гарэць — brennen. brennen і.-е. корань *bh(e)reu-: *bh(e)rū-, віраваць, кіпець, брадзіць. Параўнайце: бровар, бравaрня Brauerei f.

*Гарэлка ж іх тым адразнялась,*
*Што ў бутлі слодыч*
***дадавалась.***

**Дадаць** 1. Дабавіць звыш таго, што ёсць ці павінна быць (ТСБМ). zugeben 1. etw. zusätzlich zu etw. geben, dazugeben; diesen Gerichten braucht man keine Gewürze zuzugeben (WDG).

Параўнайце: даваць — geben.

*Міхал выходзіць на гасцінец.*
*Цяпер у думках пан-**злачынец,***
*І не хацелася б з ім знацца.*

**Злачынец**, той, хто рабіў якое-н. злачынства (ТСБМ). Täter, der jmd., der eine Straftat begangen hat: den Täter bestrafen (WDG). Täter — виновник, преступник (GDRW).

Параўнайце: рабіць — tun.

SW у сінанімічным радзе падае: tun, machen дзеяць, рабіць, чыніць што-н. каму-н.. (ТСБМ).

**Дзеяць** ням. tun. Дагерманскі корань *dhē: *dhō праяўляецца ў словах іншых моваў. Ст.-слав. dĕti 'садзіць, класці'.

*Як толькі сонца добра ўгрэе,*
*Кастусь у чоўне ўжо дурэе*
*Без **нагавіц**, ў адной кашулі.*

Нагавіцы разм. штаны (ТСБМ); Beinkleid, das (lange Hose). (WDG); Beinkleid n брюки (PHC).

Параўнайце: нага — das Bein.

*Красуе ўсмажаны падсвінак,*
*Як бы паніч той **надзіманы**.*

**Надзіманы**. 2. перан. разм. Поўны пыхі, важнасці; ганарысты (ТСБМ). Aufgeblasen — er ist ein aufgeblasener Affe (WDG)

Надзіманы 2. перен. напыщенный, надменный, спесивый (GDRW).

Напыщенный aufgeblasen (о человеке) (PHC). aufgeblasen чванный, надменный, самодовольный, надутый so ein aufgeblasener Affe такой самодовольный дурак (GDRW).

Параўнайце: дзьмуць— blasen.

*І маці стол ужо прыбрала,*
*Пасуду, лыжкі **паласкала**.*

**Паласкаць** 1. Прамываць, абмываць, апускаючы ў ваду (ТСБМ).

Полоскать spülen (PHC). spülen 1. etw. mit Hilfe einer Flussigkeit, bes. Wasser, reinigen; (das Geschirr spülen (schmutziges Geschirr mit warmen Seifen [wasser] reinigen, abspülen, aufwaschen) (WDG). spülen 1. полоскать, промывать, мыть das Geschirr spülen мыть посуду (GDRW); abspülen 1. мыть (*посуду, фрукты*) (GDRW).

Параўнайце: паласкаць посуд — das Geschirr spülen (abspülen).

*— Сядайце ж людзенькі-нябогі*
*Ды **пасілкуйцеся** з дарогі! —*
*Да госцяў кажа гаспадыня.*
*— **Падмацавацца** б не*
*мяшала,*
*Бо ў жываце штось заспявала.*

У Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў М. К. Клышкі ў сінанімічным радзе даюцца словы *есці, сілкавацца, падсілкоўвацца, падмацоўвацца*. У сінанімічным радзе сінанімічны слоўнік падае: essen 1. sich starken (SW).

**Падмацавацца** подкрепиться (БРС). **Падсілкавацца** подкрепиться (БРС) подкрепиться sich stärken (*перекусить*) (PHC). stärken 2. sich stärken: erst wollen wir uns stärken сначала давайте подкрепимся (DRLW).

У вышэй пададзеным значэнні ў слоўніках не заўважана слова kräftigen. Адносна ўласцівасці ежы ў беларускай мове ўжываецца слова *моцны*.

**Моцны** 7. Насычаны, канцэнтраваны; не разбаўлены (ТСБМ). Ням. kräftig 1. eine kräftige Bruhe крепкий бульон (GDRW).

*Хіба дзе выпіць па кілішку*
*Ды **падкрапіцца** б мала-*
*мала?*
*Я з дому ўзяў кавалак сала.*

Параўнайце: **сіла, моц** (Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў і Kraft, die: 1. Stärke (Synonymworterbuch).

**Крэпкі** 1. Дужы, моцны (ТСБМ); крепкий stark, kräftig (PHC). Kraft f 1. сила; Stärke f сила (GDRW).

Слова *крэпкі* генетычна роднаснае з ням. словам Kraft f 'моц'. У старажытнай мове слова Kraft, die мела шмат значэнняў. Слова атрымала сваю нямецкую намінацыю ад скарачэння мускулаў пры напружанні ў час барацьбы. Ст.-паўн. ням. kraptr, krǫptr і. -е корань *ger-, круціць, віць.

*Але вучыцца мне без дуру,*
*А не — як з гада спушчу скуру!*
*Усё **разумець** павінны самі!*
*І бацька ўсіх абвёў вачамі,*
*Кіўнуў выразна на аборку.*

**Разумець**. 1 Разбірацца ў думках, паводзінах, учынках, намерах каго-н. (ТСБМ). verstehen 2. Einen, die Worte jemandes verstehen bezeichnet entweder ein richtiges Erfassen mit dem Ohr oder ein Erfassen des Sinnes (DW). verstehen 1. понимать (PHC); понимать разумець (РБС), Verstand, der <zu verstehen> (Der Große Duden).

Параўнайце: розум — der Verstand.

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

# Слоўнік сінонімаў

1. **ПРАБІРАЦЦА** (праходзіць дзе-н. з цяжкасцю, пераадольваючы якія-н. перашкоды) *Хутка ён [Максім] убачыў шыракаплечую, высокую постаць Сяргея, які, распіхваючы локцямі людзей, прабіраўся да яго* (Машара). *Бор змяніўся кволым, але густым бярэзнікам. Цяжка было Галі прабірацца з санкамі* (Федасеенка), **ПРАБІВАЦЦА** узмацн. *Хлопцы, выстраіўшыся ланцужком, пачалі прабівацца праз натоўп* (Савіцкі). *Усяго якіх дваццаць кіламетраў мы прабіваліся, глядзі, як не шэсць гадзін* (Рыбак), **ПРАДЗІРАЦЦА** узмацн. *Я бегаў, прадзіраўся па лазняку, па лесе і ўсё клікаў, зваў да сябе маці...* (Сачанка). *Дзед Астап цяжка прадзіраўся праз сумёты* (Лынькоў), **ПРАШЫВАЦЦА** разм., узмацн. *Прашывацца праз гушчар. Ён [Алёшка] з маленства ведае тут кожны кусцік, кожную купінку як свае пяць пальцаў. Пройдзе там, дзе і мыш не прашыецца* (Сяргейчык), **ШЫЦЦА** разм., узмацн. *Брылі берагам, пералазілі меліярацыйныя канавы, шыліся між аеру і трысця* (Міська). *Да Юркі паехаў на трамваі, які не так і марудна шыўся праз доўгі, запоўнены машынамі вулічны калідор* (Ярашэвіч), **БРАЦЦА** разм. *Уладзя вёў яго [Астаповіча] і ледзь пратаптанымі сцежкамі, і глухой гушчырнёй. Зноў выбіваліся на сцежку, зноў браліся воўчымі логавамі, прагінаючыся і правальваючыся ў падножнай трухліне* (Чорны), **ПРАПЛІШЧВАЦЦА** разм., узмацн. *Праплішчвацца цераз сумёты. Праплішчацца [дзеці] праз хмызняк калючы, забяруцца на самую гару, палягуць у траве гушчэзнай — хоць бы хто іх бачыў* (Шынклер), **ПЛІШЧЫЦЦА** разм., узмацн. *Плішчылася яна [Марылька], плішчылася праз гушчу, усё адзенне на сабе парвала і заблудзілася* (Якімовіч). — Закончанае трыванне: **Прабрацца, прабіцца, прадрацца і прадзерціся, прашыцца, прапплішчыцца**. — Параўнайце: Прабіцца, Пралезці.

**Прабірацца**. У англійшчыне таксама знаходзім шэраг сінанімічных дзеясловаў, якія пры гэтым дапаўняюцца словазлучэннем **one's way**: **make /thread / pick/ elbow/ work one's way**. Цікава вылучыць з гэтых спалучэнне **elbow one's way**, сэнс якога ўвабраў у сябе бел. "прабірацца, распіхваючы локцямі" (гл. другі бел. прыклад). А англ. **tread one's way** больш за іншых набліжана да бел. *прашывацца* (англ. thread "нітка").

2. **ПРАБІРАЦЦА** (незаўважна, тайком праходзіць дзе-н., накіроўваючыся куды-н.) *Група падрыўнікоў ноччу прабіралася да жалезкі* (Сіняўскі). *Дзяўчына ўпотай ад бацькі прабіралася на ўскраіну горада, у лабірынт пакручастых вулачак* (Ус). **ПРАКРАДАЦЦА** *і* **ПРАКРАДВАЦЦА** узмацн. *Ён жа лагер называў "абозам" і прыходзіў рэдка адпачыць — недзе ўсё пад носам немцаў пракрадаўся ў горад уначы* (Русецкі). *Грышка і яго два таварышы пракрадваліся ў горад Мінск* (Чарот), **ПРАШЫВАЦЦА** разм., узмацн. *Прашывацца за лінію фронту. — Мы крадком прашыемся ў Гомель і ўзарвём варожае кубло з сярэдзіны* (Грахоўскі), **ШЫЦЦА** разм., узмацн. *Шыцца цераз варожую заставу. Усе, каму быў міл і дораг Буржуйскі лад, стары закон, Як мошкі шыліся на Дон* (Колас), **ПРАТОЧВАЦЦА** разм., узмацн. *Праточвацца цераз кардон. [Дзед:]— Паставілі, і калавурны начальнік сказаў, каб у дзверы без пропуску нават мыш не пратачылася* (Сабаленка). — Закончанае трыванне: **Прабрацца, пракрасціся, прашыцца, пратачыцца**.

**Прабірацца**. Англійскі адпаведнік тут толькі адзін — **steal one's way**, але ён цікавы для параўнання тым, што мае аднолькавую матывацыю з бел. пракрадацца (англ. steal "красці").

**ПРАБІРАЦЬ** (часта безас.; выклікаць моцнае адчуванне холаду, дрыжыкаў і пад.) *Іван адчуваў, што забраліся высока, інача не прабіраў бы так холад* (Быкаў), **ПРАЙМАЦЬ** *Па небе наперагонкі беглі шэрыя хмары, збіраліся ў гурт, і калі хавалася сонца, было холадна, праймаў вецер да касцей* (Гурскі). *У далечы зара гарыць барвова, Праймае грудзі тонкім халадком* (Гаўрусёў), **ПРАНІЗВАЦЬ** *Амаль цалюткі дзень мяне мачыў дождж, пранізваў вецер* (Хомчанка). *Гудзе завея. Твар пячэ. Пранізвае наскрозь* (Ставер), **ПРАЦІНАЦЬ** *Паветра было вільготнае, халаднаватае, і золкасць працінала старыя плечы дзеда Архіпа* (Кавалёў), **ПРАХОПЛІВАЦЬ** *Холад і сырасць прахопліваюць цела. Вецярок вясновы, здаецца, і цёплы, а на самай справе... адразу прахопіць* (Шамякін) //(пра боль, дрыжыкі, пра якое-н. хваравітае адчуванне: аказваць уздзеянне на каго-, што-н., праяўляцца з асаблівай сілай) *Якімку прабіраюць дрыжыкі, ён да ніткі вымак* (Курто). *Купчастыя хмары цямнеюць стагамі, Ад золкасці лютай праймае здранцвенне* (Гаўрусёў). *Ён [боль] пранізваў усё цела, разбягаўся нябачнымі токамі да грудзей, рук, галавы* (Гамолка). *Мокрае азяблае цела працінялі халодныя дрыжыкі* (Зазека). *Адкрыўшы люк, Ліквішвілі высунуўся з вежы і агледзеўся навокал. Яго ажно працяло потам — ён бачыў, што, захапіўшыся боем, адарваўся ад батальёна* (Дудо). *Раптам мяне прахоплівае (прахватвае) пот.* — Закончанае трыванне: **Прабраць, праняць, пранізаць, працяць** *і* **пратнуць, прахапіць, прахваціць**.

# Мы дапаможам творчым

*Творчае аб'яднанне "Тэатральная ліга" дзейнічае ў Беларусі ўсяго некалькі месяцаў, тэрмін для ацэнкі работы любой арганізацыі вельмі малы, але першыя вынікі яе працы ўжо могуць парадаваць сапраўдных аматараў сцэнічнага і кінамастацтва. Зрэалізавана некалькі буйных праектаў у гастрольнай сферы, наладжана супрацоўніцтва з творчымі арганізацыямі іншых краін, а самае галоўнае — беларуская творчая інтэлігенцыя і асабліва моладзь могуць знайсці ў "Тэатральнай лізе" падтрымку сваіх добрых пачынанняў. У час, калі дзяржава не звяртае ўвагі на тое, як гіне культура, сябры творчага аб'яднання прапануюць не чакаць міласці ад чыноўнікаў, а ратаваць сябе самім. На пытанні нашага карэспандэнта адказвае генеральны дырэктар ТА "Тэатральная ліга"* ***Аксана Піпко**.*

**— Аксана Мікалаеўна, скажыце, калі і як паўстала Ваша творчае аб'яднанне, якія мэты яно збіраецца выконваць?**

— Зарэгістравалі мы выданне ў верасні гэтага года, а ідэя такая была раней. Зыходзіла яна ад творчых дзеячаў, мастакоў, рэжысёраў, акцёраў, але падтрымаў гэтую ідэю дырэктар камерцыйнай структуры — Антонаў Сяргей. І ён зараз у нас віцэ-прэзідэнт па эканоміцы і інвестыцыях , на сённяшні дзень гэта адзіны чалавек, які ўклаў больш за ўсіх душы ў гэту справу, розуму, энергіі і, самае галоўнае, грошай. Колькі б ні было добрых ініцыятыў, калі іх ніхто не падтрымлівае матэрыяльна, яны здзейсніцца не могуць. Зараз вельмі цяжка жыць усёй творчай інтэлігенцыі. У людзей нават няма магчымасці мець паміж сабой сяброўскія зносіны, і таму мы вырашылі адкрыць гэтае аб'яднанне. У нас быў такі дэвіз, на нашым унутраным узроўні: "Ратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў". Дзяржаве, мне здаецца, зараз не надта патрэбна мастацтва. Калі Ніна Ціханаўна Кальцова — наш дырэктар аддзела кінамастацтва — гаварыла пра тое, што кінастудыю "Беларусьфільм" закрываюць, грошы не даюць, каб здымаць мастацкія стужкі, то гэта вельмі жахліва. Людзям трэба неяк існаваць, неяк зарабляць грошы, таму мы вырашылі дапамагчы ім, тым больш у нас шмат таленавітых людзей, у іх ёсць добрыя задумы, але яны не могуць іх ажыццявіць, няма сродкаў. Дырэктар нашага прадзюсерскага аддзела Ігар Крывенка паехаў на Украіну, пазнаёміўся там з дырэктарам Палтаўскай філармоніі, і яны запрашаюць на гастролі нашых артыстаў, а сёння я сама мела гутарку па тэлефоне з дырэктарам гэтай філармоніі. Ён кажа, што ўжо год 6-7 не бачыў ніводнага беларускага артыста. Іх цікавяць не толькі эстрада, тэатры, але і іншыя жанры. Зразумела, калі гэта высокага ўзроўню, а не нейкія падпольныя тэатры. Таму "Тэатральная ліга" напачатку можа ў некага ўкласці невялікія грошы, але ў тым выпадку, калі грошы да нас вяртаюцца, мы не будзем займацца ілжывай дабрачыннасцю. Але "знайсці" нейкія грошы, каб ажыццявіць добры праект, можна. І вось Антонаў заказаў ужо тэатральнае абсталяванне, вельмі мабільнае, добрае, з якім не сорамна паехаць і за мяжу.

**— А якой была рэакцыя творчай інтэлігенцыі Беларусі на з'яўленне вашай арганізацыі?**

— Ведаеце, супраць ніхто не быў, мы ўсіх паставілі перад фактам, што такая арганізацыя створаная, разаслалі свае рэкламныя матэрыялы творчым саюзам і іншым установам культуры. У нашай арганізацыі вельмі канкрэтныя і спецыфічныя задачы, нікому дарогі мы не заступаем. Будзем працаваць са студэнцкай моладдзю, будзем вучыць іх зарабляць хоць невялікія, але грошы. Мы не можам даць камусьці, напрыклад, кватэру ці званне, гэта справа творчых саюзаў, нашы мэты іншыя.

**— Вы сказалі пра арганізацыю "Тэатральнай лігай" гастрольнай дзейнасці, ці не складзеце вы канкурэнцыю адпаведным дзяржаўным структурам?**

— Калі мы самі знайшлі партнёраў і наладзілі супрацоўніцтва, то чаму мы не можам давесці свой праект да канца? Ніхто не замінае дзяржаўным структурам рабіць тое самае.

**— Ці не здаецца вам, што выдаткоўваць грошы на такую дзейнасць у такі час досыць рызыкоўна?**

*Падарожжы*

# ЛЕПЕЛЬ

Калі людзі засялялі наш азёрны край, яны дзівіліся: "Як тут пышна!" А прыйшоўшы да вялікага возера, казалі: "А тут яшчэ лепей!" Мабыць, ад гэтага і пайшла назва горада Лепель. Што гэта сапраўды цудоўнае месца і што тут жывуць цікавыя людзі — у гэтым упэўніліся сябры менскага клуба "Беларуская хатка", пабываўшы сёлета ў Лепелі.



Маляўнічасць гарадку надае перш за ўсё вялікае Лепельскае возера. А рукавы ракі Эсы, якая тут упадае ў возера, робяць Лепель падобным да Венецыі: у кожнай сядзібе, што выходзіць агародам да рэчкі, на вадзе маецца човен. Экзотыкі дадаюць і доўгія пешаходныя масты, яны злучаюць берагі Эсы.

Лепель вядомы з XV стагоддзя. У той час ён месціўся на востраве Лепельскага возера. Гэта была крэпасць ВКЛ і адначасна буйны па тагачасных мерках порт на гандлёвым шляху з Чорнага мора праз Бярэзіну, Эсу, Улу ў Дзвіну. Дарэчы, праект Бярэзінскага канала быў распрацаваны яшчэ ў XVII ст., але вайсковыя клопаты вялікага князя Уладзіслава Вазы не дазволілі ажыццявіць будаўніцтва, і толькі ў пачатку XIX ст. дзве водныя сістэмы былі злучаныя. Дырэкцыя канала знаходзілася ў Лепелі, у ёй пасля сібірскай ссылкі працаваў беларускі фалькларыст і паэт Ян Чачот.

Перанос горада на бераг, на сучаснае месца зрабіў Леў Сапега,



якому належаў Лепель пасля Лівонскай вайны. У пачатку XVII ст. у горадзе пабудаваны касцёл, ягоны будынак пераароблены ў сярэдзіне XIX ст. у класічным стылі і сёння ўпрыгожвае цэнтр горада. Праваслаўны сабор пасля пашкоджанняў апошняй вайны цяпер мае іншае прызначэнне, а вернікі наведваюць былую слабодскую царкву, зробленую з дрэва.

Стаўшы ў пачатку XIX ст. паветовым горадам, Лепель займеў сетку перпендыкулярных вуліц, якія і цяпер складаюць аснову горада. Драўляныя і невысокія мураваныя дамы надаюць Лепелю ўтульнасць.

Багатая экспазіцыя пра прыроду, гісторыю, знакамітых людзей Лепельскага краю разгорнутая ў мясцовым краязнаўчым музеі, экскурсію па якім цікава і змястоўна правяла яго супрацоўніца Аліна Уладзіміраўна Стэльмах. Удзельнікам нашага падарожжа была Мая Кляшторная, дачка ўраджэнца Лепельшчыны, рэпрэсаванага ў 1937 годзе паэта Тодара Кляшторнага. Для яе паездка на радзіму бацькі была асабліва хвалюючая.

Жывуць у Лепелі і творчыя людзі. Адзін з іх — мастак-інвалід Васіль Жарнасек. Ён малюе лепельскія краявіды. Ягоныя карціны дэманструюцца на міжнародных выставах, у Лепель набыць іх прыязджаюць аматары мастацтва з далёкага замежжа.

Нашым спадарожнікам у Лепелі была паэтка Вера Бародзіч, кіраўнік Лепельскага літаратурнага аб'яднання. Цёплай была сустрэча ў Лепельскай раённай бібліятэцы, для якой мы прывезлі ладны стос кніг беларускіх і замежных аўтараў.

Па дарозе да Лепеля мы пабывалі на месцы "сястры Хатыні" Дальвы, апошняй спаленай фашыстамі беларускай вёскі. Да мемарыяла былі ўскладзеныя кветкі, і хвілінай маўчання мы ўшанавалі памяць усіх ахвяр вайны. А мястэчка Бягомль узрадавала нас аднаўленнем тут велічнага праваслаўнага храма.

Гэтае падарожжа, як і шмат іншых, паказала нам, колькі цікавага і прыгожага ёсць у нашым краі. Трэба толькі больш пільна прыглядацца да таго, што нас акружае, і да тых, хто жыве вакол нас.

**Ігар ГАТАЛЬСКІ.**
**Фота Вячаслава ЛОЙКІ.**

## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў СНЕЖНІ

**20** — 375 гадоў з дня выдання ў Віленскай брацкай друкарні "Требника, сиречь Молитовника..." з прысвячэннем кіеўскаму мітрапаліту Іову Барэцкаму і полацкаму архіепіскапу Мялету Сматрыцкаму. У кнізе былі раздзелы: "Предмова пред шлюбом, в малженство вступаючим", "Другая (предмова) коротшая", "Наука пред споведю с словенскаго переложена", "Пытане в споведи".

— 350 гадоў таму вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Уладзіслаў IV сваёй граматай дазволіў шляхцічу Аляксандру Палубінскаму ладзіць кірмаш у ягоным мястэчку, Глуску Дубровіцкім, што знаходзіцца ў Навагрудскім павеце, адзін раз на год, перад праваслаўнымі запускамі, за 2 тыдні да Капыльскага кірмашу. Кірмаш павінен доўжыцца ўвесь тыдзень. Кароль гарантаваў абарону кірмашу, а дзеля пацвярджэння гэтага ўласнаручна падпісаў тую грамату і загадаў "прыкласці да яе пячатку Вялікага Княства Літоўскага".

— 340 гадоў таму маскоўскі ваявода Дзмітры Даўгарукаў паведамляў цару, што ягоны загад "выслать дохтуров и лекарев, которые... остались в Полотцку" выкананы і ён "с товарищи лекарев Ондрея Матвеева сына Энгарта да Василия Улфа сыскали и, сыскав, выслали... к тебе". Пачынаючы з 1654 года ў аптэкарскі прыказ Маскоўскай дзяржавы былі залічаныя беларускія лекары М.Л.Зарэцкі, Х.С.Лабенскі, К.С.Куцяшоў, чатыры лекары з Шклова і Копысі.

**21** — 200 гадоў з дня нараджэння ў гасподзе вёскі Мясота каля Маладзечна аднаго з першых рамантычных паэтаў Тамаша Заня, аўтара баладаў "Твардоўскі", "Цыганка", перакладчыка. Таго ж дня немаўлятка ахрысціў "вадою" родзіч сям'і Заняў уніяцкі парох Бенядыкт Пазьняк. Хроснымі былі святарова дачка Вікторыя Пазнякоўна ды Ігнат Тамашэвіч з Вавёраў.

**23** — 330 гадоў таму "по указу великого государя и по скаске иноземцов ствольных мастеров Степана Григорова с товарищи" атрымалі згаданыя нашы землякі плату за "20 стволов винтовальных 2 рубли 13 алтын 2 деньги". (Звяртае ўвагу напісанне прозвішча беларускага майстра.)

— 165 гадоў таму памерла Эмілія Плятэр, збіральніца беларускага фальклору, удзельніца паўстання 1831 года, якой Адам Міцкевіч прысвяціў верш "Смерць палкоўніка".

— 105 гадоў з дня нараджэння Міная Шмырова (Бацькі Міная), аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху на Віцебшчыне, Героя Савецкага Саюза.

— 90 гадоў з дня нараджэння драматурга Канстанціна Губарэвіча, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

— 75 гадоў з дня нараджэння татарскага паэта Закі Нуры, перакладчыка твораў беларускай літаратуры.

**24** — Калядная куцця ў каталікоў.

— 200 гадоў таму нарадзіўся Адам Ціт Дзялынскі, заснавальнік вядомай у навуковым свеце бібліятэкі ў польскім горадзе Курніку, дзе і цяпер захоўваюцца рэдкія беларускія кнігі і рукапісы.

**25** — Хрыстова нараджэнне па календары каталіцкай канфесіі.

— 105 гадоў з дня нараджэння Уладзіславы Луцэвіч, літаратуразнаўца, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

— 60 гадоў з дня нараджэння актрысы Ліліі Давідовіч, народнай артысткі Беларусі.

— 45 гадоў таму, 25 снежня 1951 года, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі зацвердзіў новы сцяг БССР; быў выдадзены ўказ "Аб дзяржаўным флагу Беларускай ССР".

**26** — 80 гадоў таму ў віленскім Беларускім тэатры адбылася прэм'ера п'есы Францішка Аляхновіча "На Антокалі": "аўтар... спаткаў... добры прыём публікі і быў шчыра вітаны".

— 70 гадоў з дня выпуску на экраны першага беларускага мастацкага кінафільма "Лясная быль" рэжысёра Юрыя Тарыча.

**Падрыхтаваў З.С.**

*У старых фаліянтах*

## ПАД ЗОРКАЙ

*Кожную ночку на зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім краю.*
**Максім Багдановіч.**

Як вядома, нашыя прашчуры ўпадабалі сабе лічбу шэсць. (І гэта даволі дзіўна, асабліва калі ўявіць, што працэй лічыць пяцёркамі — з дапамогаю пальцаў на руках). Гэтак жа, як і ў старажытным Шумеры за некалькі тысячагоддзяў да Хрыстовага нараджэння, яны лічылі па дванаццаць ды прыдумалі гэтаму ліку адмысловы тэрмін — тузін, а таксама і па шэсцьдзесят — капа. Гэты звычай прадкі выкарысталі ў грашовай сістэме сваёй дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага. Калі ў сялянскіх вацкох пераважалі шасткі, зароблены за тыдзень ("шэсць дзён малаціла, шастак зарабіла"), то заможная шляхта ды магнаты лічылі грошы копамі: капа грошаў літоўскіх.

Але пэўным часам, верагодна разам з хрысціянствам, у нас прыжылася і лічба сем. З ёю былі звязаныя пэўныя ўяўленні ды прыродныя з'явы. Адна з найболей "відавочных" — планеты Сонечнай сістэмы. Іх, бачаных "голым" вокам, нібы сем: Сонца, Месяц, Меркурый, Венера, Марс, Юпітэр, Сатурн. І хоць Месяц — спадарожнік, а, апроч Зямлі, існуюць яшчэ Уран і самая далёкая — Плутон, гэтую лічбу "зорак" прымалі амаль паўсюдна. І сведчанне таму — назвы дзён у некаторых заходнееўрапейскіх мовах. Услед за лацінскімі быў прыняты такі лад: дзень Сонца (Sunday — анг.), Месяца (lundi — фр.), Марса (March — анг.). Меркурыя (mercredi — фр.). Падобна і з днямі Юпітэра, Венеры, Сатурна. (У нас жа дні лічыліся, што і засведчана: аўторак, чацвер, пятніца, падобна, як і ў Бізантыі, адкуль і прыйшло хрысціянства).

Звычай ушаноўваць Нядзелю звязаны з імем імператара Канстанціна Вялікага, які 1675 гадоў таму вырашыў: "Шаноўны дзень Сонца мусіць быць вольным ад судовых пасяджэнняў ды розных заняткаў гарадскога люду. У той жа час вясковыя жыхары могуць ураблялць палеткі, часта бо здараецца, што менавіта тады прыпадае сама карысная пара араць зямлю або садзіць вінаградную лазу, не належыць таму марнаваць добрую часіну". Такі вырок забаўляе нас і па сённяшні дзень.

"Касмічнае" паходжанне сямёркі падмацоўваецца і сямю зоркамі Вялікага і Малога Возаў, Плеядаў, Арыёна. Але найболей, мабыць, спрычыніўся Месяц, які менш-больш кожныя сем дзён уваходзіў у новую фазу: маладзік, поўня, другая квадра ды інш. І разам гэта складае 28 дзён.

**Вычытаў З. С.**

*(Працяг будзе.)*

*Пачутае "У Лявона"*

### Мара

Пасля вячэры сябры пачалі марыць.

— Мая мара ніколі не збудзецца, — кажа адзін.

— Дык пра што ж ты думаеш?

— Я мару, каб мая жонка аднойчы мне сказала: "Прашу цябе, давай мне менш грошай!"

### Прыкмета

Маладая наведвальніца шынка просіць рады ў Лёлі:

— Параіце мне, якіх кавалераў не варта адшываць?

— Інтэлігентных ды інтэлектуальных!

— А як іх пазнаць?

— Прапануйце кандыдату палічыць на пальцах да дваццаці. Таго, хто не будзе здымаць туфлі, і затрымайце.

### Сродак

— Чым вы мажаце дзверы, калі яны пішчаць?

— Алеем.

— А чым жа мне падмазаць жонку, каб не пішчала, як убачыць мыш?

### Плата

Бывальцы шынка гутараць пра жыццё.

— За ўсё, даражэнькі, трэба плаціць...

— Пара адмовіцца, вырачыс гэтай заганнай практыкі. Я, прыкладам, ужо адмовіўся плаціць пральні за ўсё больш паніжчаныя кашулі ды дзяру іх сам.

### Маламоўная

— Мая жонка маламоўная. Яна не любіць гаварыць шмат слоў, але ўжывае іх часта.

### Няўмелец

— Добра табе — маеш мужа, майстра на ўсе рукі!

— А твой, што? Не можа нічога зрабіць?

— А мой дык няздара! Нават не можа прытварыцца цвярозым, калі п'яны, і не можа ўтаіць, калі яму спадабаецца якая-небудзь жанчына.

### Суцяшэнне

— Старэем, дарагая, старэем, — кажа муж жонцы, разглядаючы фатаграфіі ў сямейным альбоме.

— Адно суцяшэнне, — адказвае тая, — што гэтыя фатаграфіі выглядаюць старэй за нас.

### Нічога не хочацца

— Як ты сябе пачуваеш?

— Вельмі дрэнна. Мне ўжо не хочацца нават таго, што мне забараніў доктар.

**Падслухаў З. С.**

*Афарызмы*

## Прымаўкі і выслоўі з-пад Бетлеема

Калі б Бог жыў на Зямлі, людзі павыбівалі б яму шыбы.
Манюка павінен мець добрую памяць.
Калі паляць у печы саломай, ядуць сырыя стравы.
Не можаш танцаваць адначасна на двух вяселлях, так як не можаш адной задніцай сядзець на двух конях.
Умельства маўчаць — падпора мудрасці.
Калі замак зруйнуюць, ён застанецца замкам. Калі куча гною вырасце з гору — застанецца кучай гною.
Што за карысць з добрага віна ў запляснелай бочцы?
Словы трэба ўзважваць, а не лічыць.
Многа прафесіяў — мала прыбытку.
Калі чалавек мае пугу, заўсёды знойдзе каня, каб біць.
Хто кладзецца спаць з сабакамі, той устае з скакунамі.
Капелюшы заўсёды добрыя, толькі галовы часта замалыя.
Ад шчасця да няшчасця толькі крок, ад няшчасця да шчасця вельмі далёка.
Шчасце цёмнага чалавека ў тым, што не ведае пра сваю няведу.
Пан Бог даў чалавеку двое вушэй і адны вусны, каб шмат слухаў і мала гаварыў.
Такт — дапамога ведам.
Калі пацалуе нягоднік — палічы свае зубы.
Што за карысць з мудрай галавы, калі ногі не ўмеюць яе насіць.
Адзін дурань учыніць шмат каго дурнем.

**Выпісаў З. С.**

## Удакладненні

У гутарцы з Я.Брылём "Душа на рацэ часу" ў № 50, с.3 трэба чытаць (слупок 1-ы, радкі 4,5 зверху): Юрка Гаўрук намерыўся напісаць пра сваю сумесную выкладчыцкую працу з Максімам Гарэцкім у Горках; (слупок 4-ы, радкі 55,56 зверху): з жыцця пайшлі Мележ, Карактевіч, Бечык, Вялюгін, Калеснік, Панчанка, Танк; (слупок 4-ы, радкі 17—15 знізу): Аднойчы мяне запрасілі ў адну з іх — выступіць перад старшакласнікамі.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Анісковіч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адлавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1416

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2702 паасобнікі.
Падпісана ў друк 18.12.1996 г. у 15 гадзін.